*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.) № 30 (190) 27 ліпеня 1994 г. Кошт -- 150 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**БЕЛАРУСЬ АФІЦЫЙНА АТРЫМАЛА СВАЙГО ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА.** 20 ліпеня Аляксандр Лукашэнка, прысягнуўшы, што будзе абараняць канстытуцыйныя правы народа, афіцыйна займеў прэзідэнцкія паўнамоцтвы. 21 ліпеня Прэзідэнт прыняў адстаўку каманды Кебіча і прапанаваў на зацвярджэнне Вярхоўнага Савета новы састаў ключавых кіраўнікоў Савета Міністраў.

А вось з «рублёвай зонай новага тыпу», як можна зразумець з праграмнай прамовы Прэзідэнта, зноў давядзецца чакаць. На гэты раз хаця б да 2 жніўня г., калі плануюць сустрэцца Прэзідэнты Беларусі і Расіі. Пакуль жа Аляксандр Лукашэнка настойліва рэкамендаваў умацаваць усё ж свой беларускі рубель. Відаць, нашых «...оншчыкаў» трохі ахаладзіла сустрэча з віцэ-прэм'ерам Расіі — прагматычным фінансістам Аляксандрам Шохіным. У сваім віншавальным выступленні той цёпла напомніў, што беларусы і расіяне больш чым суседзі — яны «братья», але рэкамендаваў звярнуць пільную ўвагу на рынкавую эканоміку.

***НЕ ЗУСІМ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО АЗНАЧАЕ БАЗАРЫЦЬ ПА-СЛАВЯНСКУ,*** *калі рэч ідзе пра музычны фестываль, але ў Віцебску гэта робяць другі раз. Добра, што хоць адна з вядучых пастаянна рабіла абвесткі на беларускай мове.*

**А Ў МАГІЛЁВЕ АДБЫЎСЯ ТРАДЫЦЫЙНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ** «Магутны Божа». Толькі ўдзельнікаў на яго зарэгістравалася пад тысячу. Госці былі з Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Галандыі, Канады і іншых краін. Відовішча атрымалася прыгожае, годнае, і мова беларуская была на пачэсным месцы — на ёй складаліся афішы, яна гучала ў аб'явах ды і ў шмат якіх песенных тэкстах.

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ*** *Мечыслаў Грыб сустрэўся з дэлегацыяй Рэспублікі Польшча на чале з маршалам сейма Юзэфам Алексы, якая прыбыла ў Менск для ўдзелу ў цырымоніі ўступлення на пасаду Прэзідэнта Беларусі, а затым — са старшынёй сейма Летувіскай Рэспублікі Чэславасам Юршэнасам. Як перадаюць, гутарылі па-добрасуседску, сардэчна.*

**АРГКАМІТЭТ ПА СВЯТКАВАННІ** 480-х угодкаў перамогі беларускай зброі пад Оршай — Дня беларускай вайсковай славы створаны ў Менску. У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Саюза пісьменнікаў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Рэха

## ЯДАВІТЫЯ ЗУБЫ ЦМОКА

В АЎСХОДНІХ паданнях добрыя людзі перасцерагаюцца: будзьце пільнымі і тады, калі дракон канае: у такі момант ён люта пырскае ядавітай слінай, а яго раскіданыя зубы здольныя з часам вырасці ў новых драконаў. У нас гэтую пачвару называюць цмокам — драпежнай істотай, якая жывіцца высмактваннем чалавечай крыві.

Гэта прыгадалася ў сувязі з заканчэннем прэзідэнцкіх выбараў. Здаецца, з прагніўшай кампартыйнай наменклатурай, якая ператварыла Беларусь у крымінальную зону, скончана. Аляксандр Лукашэнка абяцае сваю ўрадавую каманду ўкамплектаваць «талковымі маладымі людзьмі». Пажывём і хутка пабачым.

А што робіць Вячаслаў Францавіч, які меў «мэту ўсяго свайго жыцця» і так заўзята даказваў, што любіць Расію больш тэмпераментна, чым маладзейшы Аляксандр Рыгоравіч? Ён публікуе гэткую ж тэмпераментную заяву аб сваёй адстаўцы. Аглядальнік «Народнай газеты» назваў гэты публіцыстычны твор самым лепшым з таго, што пабачыла свет за подпісам Кебіча ў апошнія тры месяцы. Аглядальнік знайшоў тут нават «спокойный, даже мудрый тон», убачыў «полный достоинства шаг» і параўноўвае гэта ўсё толькі з мінулым — з «полной цинизма и беспринципности избирательной кампанией». Каб жа! А як тады характарызаваць нацкоўванне прэм'ера на нейкіх «разбуральнікаў дзяржавы», якія нібыта «ніколі не згодзяцца з нашым (!?) саюзам з Расіяй», і мэта іх, у адрозненне ад Францавічавай, аказваецца, скампраметаваць цяперашнюю ўладу, у тым ліку і Прэзідэнта, і прыйсці на хвалі новага народнага абурэння. Абурэння ў выніку чаго? — узнікае адразу ж пытанне. Што спадзяванні на новы цуд камунізму не спраўдзіліся?

А гэтая гульня са слоўцам «нашым»! Значыць, А.Лукашэнка ўсё-такі «ваш»? І яму адразу даецца ад «старэйшага» таварыша арыенцір — з кім надалей змагацца, у чыёй кішэні шукаць чарговы «цвік», пакуль зубы дракона не вырастуць у новых цмокаў. А сябе такім чынам ратаваць ад следства і магчымага суда, якія абяцаў А.Лукашэнка. Кажуць, гэта развітальны шэдэўр палкоўніка ад кампартыйнай прапаганды Замяталіна. А Францавіча, які тэкст аўтарызаваў, зноў падставілі ягоныя памагатыя? Вось вам, панове, і ўвесь «полный достоинства шаг».

Ул. АСІНАЎСКІ.

Нявыкарыстаныя грошы Бернарда Шоў. Стар. 4



Фота У. КАРМІЛКІНА.

Войска супраць дзяцей і старых. Нянавісць супраць кветак.
Камуністы-эсэсэраўцы стаялі пад сцягам, якім карысталіся ўласаўцы і з нянавісцю кідаліся на беларускі дзяржаўны. Стар. 3

АЛЕ! АЛЕ!

## А гадзіннік цікае. Пад сцягам неіснуючай дзяржавы




50-я ўгодкі са дня вызвалення Беларусі ад гітлераўскай акупацыі кожны святкаваў па-свойму. Адны пад гукі музыкі бадзёра крочылі цэнтральнай вуліцай сталіцы, другія марна чакалі дазволу пакласці кветкі да помніка Перамогі. Адны неслі чырвоныя сцягі з сярпом і молатам, другія — дзяржаўную сімволіку незалежнай Беларусі.

Свой уклад у адзначэнне дня вызвалення, прапаганду нацыянальнай сімволікі і мовы зрабіў і Менскі завод электронікі. На ім выраблена партыя гадзіннікаў, упрыгожаных сцягам... Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (?) і подпісам — «50 лет освобождения БССР». Але ці можна мець нейкія прэтэнзіі да звычайнага гадзінніка? Можна, бо:

— 3 ліпеня 1945 года, у дзень, афіцыйна прызнаны днём вызвалення, БССР не мела ўласнай дзяржаўнай сімволікі. Сцяг БССР быў прыняты толькі 25 снежня 1951 года, а палажэнне аб ім было зацверджана Указам ад 8 траўня 1956 года. Гэта значыць, што 3 ліпеня 1945 года савецкая армія не несла сцяга Беларусі.

— Дагэтуль не спынена дзеянне вядомага Указа аб незарэгістраванай сімволіцы, пад дзейнасць якога трапляе сцяг БССР, нідзе, нікім і ніколі не зарэгістраваны.

— Афармленне гадзінніка выканана без уліку патрабаванняў дзеючага Закона аб мовах, бо ўсе надпісы зроблены на мове суседняй дзяржавы.

Выглядае на тое, што выпуск буйной партыі юбілейных гадзіннікаў прыурочаны, дарэчы, да выбараў Прэзідэнта рэспублікі, стаў чарговым агітацыйным мерапрыемствам на карысць Беларусі як складовай часткі адзінай звярхдзяржавы — «адноўленага» СССР.

Усе памятаюць, як гадзіннікі ад Брэста да Курылаў звяраліся па Крамлёўскіх курантах. Па гэтым часе тужыць менская «Электроніка»?

У.П.

## У ГАЗЕТАХ

### АПЛАДЫСМЕНТЫ

Пад такой рубрыкай рэспубліканская маладзёжная газета «Чырвоная змена» (№ 72) паведаміла, што на творчым небасхіле Гродна з'явілася новае таленавітае імя — Аляксей Лобур, першая персанальная выстава жывапісных твораў якога нядаўна адкрылася ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, размешчаным у Старым замку. Аляксей валодае рознымі відамі творчасці, ён з поспехам займаўся керамікай, саломапляценнем і разьбой па дрэву. Але апошнія гады асабліва захапіўся маляваннем. Плён гэтага — больш за сорак палотнаў, якія дэманструюцца на згаданай выставе. Дарэчы, гродзенцы ўжо далі высокую ацэнку майстэрству А.Лобура, яго палотны ахвотна купляюць у гарадскіх мастацкіх магазінах.

У гэтым жа нумары «Чырвонкі» змешчана інфармацыя, што ў Віцебску ў памяшканні Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа адбылося ўрачыстае адкрыццё Першага міжнароднага Шагалаўскага пленэра і Першага музычнага фестывалю «Скрыпка Шагала». Удзельнікам пленэра і фестывалю была зачытана віншавальная тэлеграма прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. Як вядома, дзіцячыя і юнацкія гады гэтага сусветнавядомага мастака прайшлі ў Віцебску і менавіта Віцебск — галоўная тэма Марка Шагала. Апошнім часам у горадзе зроблена шмат для ўвекавечання памяці свайго выдатнага земляка.

### ПЕРШЫ ВЫПУСК

«Настаўніцкая газета» (№ 57) паведаміла, што ў Пінскім мастацкім вучылішчы адбыўся першы выпуск дыпламаваных спецыялістаў. Акрамя асноўных спецыяльнасцей (мастак-афарміцель, дэкаратар, кіраўнік калектыву мастацкай самадзейнасці), юнакі і дзяўчаты авалодалі яшчэ і сакрэтамі акцёрскага і акампаніятарскага майстэрства, вывучалі харэаграфію, гісторыю Беларусі, этнаграфію і фальклор Палесся. А танцавальны ансамбль вучылішча «Пінская шляхта» добра ведаюць не толькі ў Брэсцкай вобласці, а і па ўсёй рэспубліцы. Паспяхова выступіў ансамбль і на міжнародных фестывалях фальклорных калектываў.

### ЮБІЛЕЙ МУЗЕЯ

Абласная газета «Мінская праўда» (№ 69) змясціла артыкул «Часцей глядзіце з курганоў вячыстых», прысвечаны Вілейскаму гісторыка-краязнаўчаму музею, якому сёлета споўнілася 20 гадоў.

У артыкуле робіцца кароткі агляд раздзелаў экспазіцыі музея: «Вытокі», «Зямля», «Зямля і айчына», падкрэслена, што гэты музей — жывы падручнік роднай гісторыі. Тут часта мясцовыя настаўнікі праводзяць урокі, а дырэктар музея Яўген Ігнатовіч збіраецца неўзабаве стварыць творчую гасцёўню і значна пашырыць экспазіцыю за кошт новага памяшкання, якое для музея выдзеліў гарвыканкам.

Дарэчы, і ўсе масавыя музейныя мерапрыемствы фінансуюцца не цэнтралізавана са сталіцы, а непасрэдна з гарадскога бюджэту. Грашовую дапамогу музею пастаянна аказваюць мясцовыя прадпрыемствы — камбікормавы завод, саўгас «Беларускі», Вілейскі дрэваапрацоўчы камбінат, хлебазавод. Дадатковае фінансаванне дазваляе музею своечасова рэалізоўваць свае творчыя планы, удасканальваць культурнае абслугоўванне жыхароў горада і раёна, гасцей Вілейкі.

М.В.

## Меркаванні

# І ўсё ж — будучыня за маім пакаленнем

Знноў Беларуссю будзе кіраваць чалавек, які «как хаціт, так і гаварыт». Можна чакаць, што камісія па дзяржаўным гімне будзе скасаваная, бо, відавочна, што прэзідэнта Лукашэнку задавальняе і «Мы, беларусы, з братняю Руссю». Ды і герб БССР на Доме ўрада будзе якраз да месца.

Гэта будзе прэзідэнт, які ўжо вядомы не толькі на Беларусі, але і за ейнымі межамі: расейцы мелі магчымасць паслухаць, як ён прасіўся ў дэпутатаў Думы, каб яны дапамаглі яму стаць прэзідэнтам Беларусі. Гэта будзе прэзідэнт, вядомы як змагар з карупцыяй. Але «генеральскія вяселлі» й «дзікія паляванні», раскраданне й продаж дзяржавы — гэта не тыя рэчы, якія заслужаць увагу прэзідэнта. Ён больш вядомы як выкрывальнік галоўнага «мафіёзі» краіны Шушкевіча. Мяркую, што наступным будзе выкрыццё другога «бандыта-нацыяналіста» — Пазьняка. Вось з імі расправімся, тады зажывём!

На маю думку, Пазьняк шмат чакаў ад свайго народа, які амаль тры стагоддзі не меў сваёй дзяржавы, гвалтам быў пазбаўлены сваёй мовы, культуры, гісторыі, сваіх лепшых людзей. Ідэі дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі ў наш час — дужа абстрактныя паняцці для большасці беларусаў. Людзі азлобленыя, і яны проста прагнуць помсты. На адным з выбарчых участкаў у Мар'інай Горцы нейкі дзядзька, узяўшы бюлетэнь, злосна сказаў камісіі, якая складалася пераважна з настаўнікаў: «Што, мафія?! Хутка паганяем вас!» — і пайшоў галасаваць, напэўна ж, за Лукашэнку.

Але я перакананы, што будучыня за людзьмі майго пакалення. Амаль усе мае сябры і знаёмыя, студэнты Лінгвістычнага універсітэта (былы інстытут замежных моў) галасавалі ў першым туры за Пазьняка альбо Шушкевіча. Для нас Радзіма — гэта не БССР, не расейскі «Северо-Западный край», а вольная, незалежная Беларусь. Будучыня краіны — і за тымі дзеткамі, што цяпер вучацца ў школах на беларускай мове. У свой час для іх не будзе пытання, колькі зрабіць дзяржаўных моў, валюту якой краіны яшчэ ўвесці і г.д.

**Зміцер ДАРОХІН,**
**студэнт Лінгвістычнага універсітэта.**
**«Свабода» (№ 27).**

## РЭХА

# Спыніць гульні вакол дзяржаўнай мовы!

### Радкі са зваротаў грамадзян у Вярхоўны Савет

**У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь працягваюць паступаць звароты працоўных калектываў прадпрыемстваў і ўстаноў, грамадскіх арганізацый і асобных грамадзян, аўтары якіх абураны спробамі пэўных палітычных сіл скасаваць замацаваную Канстытуцыяй дзяржаўнасць матчынай мовы, змяніць нашы галоўныя дзяржаўныя сімвалы — гістарычны герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Антыбеларускія сілы адкрыта выступаюць супраць нацыянальнага адраджэння народа, супраць беларушчыны ўвогуле. Прадстаўнікі іх маюцца і сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета (В.Сарокін, І.Някрасаў і інш.) Такая пазіцыя выклікае рашучы пратэст выбаршчыкаў.**

**Некаторыя са згаданых дакументаў паступілі ў Вярхоўны Савет раней. Але яны не страцілі сваёй злабадзённасці, вастрыні і актуальнасці, бо антыбеларускія сілы не думаюць суніімацца, наадварот, хвацка карыстаюцца «момантам», перыпетыямі нашага грамадска-палітычнага жыцця.**

**Публікуем падборку фрагментаў асобных зваротаў у абарону нашай нацыянальнай дзяржаўнасці, беларускай культуры і мовы, накіраваных Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь.**

* * *

Выказваем абурэнне непрыстойнай валтузнёй дэпутатаў вакол пытання аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Хопіць ганьбаваць беларускі народ, яго святую мову і культуру! Хопіць спекуляцый вакол таго, што 90 працэнтаў беларусаў нібыта гавораць па-руску. Гэта хлусня. У выніку антыбеларускай моўнай палітыкі пераважная большасць беларусаў... сёння не гавораць па-руску, не гавораць па-беларуску, а гавораць на трасянцы — мове неадукаваных людзей. І гэта ёсць сапраўдны інтэлектуальны Чарнобыль, пра які не можна маўчаць, бо цэлы народ пазбаўлены магчымасці адэкватна ўспрымаць навакольны свет з-за штучнага разбурэння нацыянальнай логікі мыслення, што фіксуецца ў будове роднай мовы. Гэта сталася вынікам двухсотгадовай каланіяльнай палітыкі.

Гомельская гарадская кансультацыйная рада «Адраджэнне», Гомельская рада БНФ, Гомельская арганізацыя БСДГ, Гомельскае аддзяленне НДПБ, Гомельская рада БХДЗ (Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці), Гомельская суполка БЗВ, Гомельская маладзёжная суполка «Талака», Рада ТБМ імя Ф.Скарыны г.Гомеля.

* * *

Мы, выкладчыкі і студэнты Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, здзіўлены і абураны паклёпніцкімі акцыямі супраць беларускага нацыянальнага адраджэння, якія гучаць у выступленнях асобных дэпутатаў. Толькі людзі, для якіх беларускі народ абсалютна чужы, якія не ведаюць яго драматычнага лёсу, могуць назваць гэты працэс праявай нацыянал-фашызму. Апамятайцеся, генерал В.Сарокін! Сваімі заявамі аб беларускім нацыянал-фашызме Вы ставіце сябе ў адзін рад са сталінска-берыеўскімі катамі беларускага народа, з тымі, хто знішчыў лепшых яго сыноў і да гэтага часу спрабуе таптаць яго, паганіць яго душу, яго гістарычную памяць... Мы як грамадзяне Рэспублікі Беларусь патрабуем не адступаць ад дзяржаўнага статуса беларускай мовы, ад нацыянальнай дзяржаўнай сімволікі.

**109 подпісаў.**

* * *

**Дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь хачу параіць павучыцца ў прыбалтаў і малдаван, як паважаць сваю рэспубліку і сваю мову. Вы ж шмат часу марнуеце на спрэчкі адносна дзяржаўнай мовы рэспублікі. Сорамна беларусам! Гэта — непавага да сябе. Ёсць Беларусь і павінна быць без усякіх спрэчак адзіная дзяржаўная мова. А ўсе, хто жыве тут, абавязаны яе ведаць і шанаваць. Я не жартую, бо мне ўжо 80 гадоў.**

**Ірэна СУБАЧ.**

г. Ліда.

* * *

**Лічаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета размаўляюць па-беларуску. На маю думку, яны і дэпутаты ніжэйшых узроўняў павінны выступаць толькі на дзяржаўнай мове рэспублікі. Трэба неяк прадугледзець, каб дэпутатамі абіраліся тыя, хто добра валодае беларускай мовай... На жаль, сённяшнія нашы палітыкі ў сваёй пераважнай большасці яшчэ не валодаюць дзяржаўнай мовай... Прашу прыняць адпаведныя меры па адраджэнню матчынай мовы.**

**Іван ЖЫТКО, пенсіянер.**

г. Камянец.

* * *

**Я вітаю ўсіх дэпутатаў, якія на законных падставах бароняць сваю родную мову, культуру, краіну! Жадаю Вам усяго добрага, дарагія мае землякі! Мне — 70 гадоў, беларуска. Калі б я пераехала жыць у іншую краіну, то ў першую чаргу вывучыла б яе мову і культуру... Кожная краіна абавязкова мае права на сваю дзяржаўную мову, на нацыянальную культуру і звычаі — гэта натуральны закон прыроды. Таму тых, хто не жадае гэтым кіравацца, чакае сумны канец.**

**Алена СТАСЕВІЧ.**

г. Менск.

* * *

Дэпутаты Гомельскага гарадскога Савета народных дэпутатаў абураны бессаромным гвалтам дэпутата-генерала В.Сарокіна. Чаго яму няймецца? Пэўна, мулка стала, што ў нашай краіне распачаўся беларускі лад?

**27 подпісаў.**

* * *

У мяне муж рускі, дзеці жывуць у Менску, але я не магу спакойна слухаць па радыё ўсе гэтыя бясконцыя размовы аб неабходнасці дзяржаўнага двухмоўя... Не трэба травіць душу. Я плачу ад абразы за тое, што топчуць нашу нацыю. Народ ніколі не пойдзе змагацца супраць матчынай мовы. Мая пазіцыя — не нацыяналізм, я — за дзяржаўную беларускую мову.

**Кацярына СОПАТ, 67 гадоў.**

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

Прэс-бюлетэнь (чэрвеньскі выпуск) Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь паведаміў аб асноўных мерапрыемствах, ажыццёўленых у траўні — пачатку ліпеня г.г. арганізацыямі і ўстановамі, падначаленымі міністэрству.

* * *

*З 31 траўня ў аздараўленчым лагеры «Зубраня» працавала змена для лаўрэатаў Рэспубліканскага мастацкага фестывалю выхаванцаў дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў і спецыяльных школ «Вясёлкавы карагод». Пераможцы фестывалю выступілі са справаздачнымі канцэртамі, удзельнічалі ў выніковым гала-канцэрце.*

* * *

9—10 чэрвеня ў Нацыянальным інстытуце гуманітарных навук адбыўся семінар-нарада выкладчыкаў гісторыі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў па надзённых праблемах гістарычнай адукацыі. Былі абмеркаваны, у прыватнасці, пытанні пераходу на новы змест гістарычнай адукацыі.

* * *

*14—15 чэрвеня на базе Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта праводзілася Рэспубліканская канферэнцыя «Камп'ютарныя праграмы ў выкладанні беларускай і замежных моў».*

* * *

21—22 чэрвеня ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным інстытуце адбылася Рэспубліканская канферэнцыя «Беларуская пачатковая школа: праблемы і перспектывы развіцця».

* * *

*З 30 траўня да 25 чэрвеня на факультэце кіруючых работнікаў школ і пазашкольных устаноў Інстытута павышэння кваліфікацыі працавалі курсы для выхавацеляў дашкольных устаноў. Тэма заняткаў: мастацка-эстэтычнае выхаванне дзяцей. На занятках слухачам таксама прапанавалі вывучыць блок пытанняў, прысвечаных нацыянальнаму адраджэнню.*

* * *

З 1 да 14 чэрвеня ў згаданай установе працавалі курсы для настаўнікаў. Тэма заняткаў: шляхі выкарыстання беларускіх народных традыцый у працэсе выхавання нацыянальнай свядомасці вучняў. Слухачы паглыблена вывучалі праблемы зберажэння фальклорнай спадчыны і агульнанацыянальнай традыцыйнай культуры беларусаў і яе выкарыстання ў выхаваўчых, пазнавальных і дыдактычных мэтах.

# НЯНАВІСЦЬ — ЭНЕРГІЯ РАЗБУРЭННЯ

***Пішу гэтыя радкі, а ў вачах зноў паўстае карціна: калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі адыходзіць з плошчы Перамогі, пакідаючы за сабой кардон з міліцыі і баевікоў-камуністаў. Там кальшуцца чырвоныя сцягі і лозунгі, якія нас клічуць назад у СССР і пад кіраўніцтва камуністычнай партыі бальшавікоў.***

Побач са мной крочыць немалады чалавек з букетам белых півоняў — хацеў іх пакласці да Вечнага агню, ды чырвона-карычневыя не далі. Калі за спінамі аціх раз'юшаны натоўп, мы разгаварыліся. Маім субяседнікам аказаўся Іван Іванавіч Краснікаў.

— Ведаеце, я шмат дзе пабываў на сваім вяку, але такога нідзе не бачыў: каб дзяржаўны сцяг, дзяржаўную сімволіку, якой сотні гадоў, ганьбілі нейкія незразумелыя, сумніцельныя людзі, як гэта робіцца ў нас зараз. У вайну дзейнічала так званая руская вызваленчая армія пад камандаваннем генерала Уласава. Яна ўдзельнічала ў карных аперацыях супраць сваіх — рускіх, беларусаў — і выступала пад расейскім імперскім сцягам. Але нікому не прыходзіць у галаву на гэтай падставе патрабаваць адмены гэтай традыцыйнай сімволікі цяпер, калі яна стала дзяржаўнай у Расійскай Рэспубліцы. Абраза нацыянальных сімвалаў Беларусі па выдуманай прычыне мне нагадвае такую сітуацыю: прыйшлі ў мой дом, укралі мой пашпарт, затым хтосьці з ім учыніў крымінальнае, проціпраўнае дзеянне, а мяне спрабуюць за гэта прыцягнуць да адказнасці. У галаве такое не ўкладваецца.

**— Чаму Вы сёння ў гэтай калоне?**

— Таму што я заўсёды са сваім народам. У вайну падлеткам я дапамагаў партызанам. Сёння бачу іншую небяспеку для Бацькаўшчыны. Калі гаварыць шчыра, у беларусаў вельмі нізкая самасвядомасць, бо столькі гадоў яе ўсяляк глушылі і выкарчоўвалі. Толькі цяпер пачынаюць парасткі на свет прабівацца. І той-сёй, назавём іх сваім імем — пятая калона, — хоча гэтыя парасткі знішчыць. Але што дадзена Богам, прыродай, адабраць нельга.

**— Вы так думаеце?**

— Законы грамадскага развіцця не абвядзеш вакол пальца. Яны крычаць: «Мы хочам назад, у Савецкі Саюз». Я таксама мог бы крыкнуць, што хачу вярнуцца ў маладосць, няхай жыве маладосць! Але ж куды я дзенуся ад старасці? Я не думаю, што Украіна захоча вярнуцца ў былы Саюз або што пойдзе ў яго Прыбалтыка, іншыя суверэнныя цяпер краіны. Значыць, зноў ідзём да вайны? Не, гэтым людзям з чырвонымі сцягамі другі раз не ўдасца перавярнуць свет.

**— А крыкі ў наш бок з натоўпу «фашысты!», «фашысты!», усё роўна як «распні яго, распні!» Аб чым гэта сведчыць?**

— Дык гэта ж з натоўпу. На жаль, пакуль яшчэ наш народ нельга назваць народам. У нас натоўп. А чаму? Складаемыя народа і натоўпу адны і тыя ж — чалавек. Потым адбываецца інтэграцыя людзей або ў натоўп, або ў народ. Калі жыццё нармальнае, чалавек забяспечаны кватэрай і ўсім неабходным, у дзяржаве няма інфляцыі і беспрацоўя, тады людзі аб'ядноўваюцца ў народ; калі ж беспрацоўе, нізкая зарплата, няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, а той-сёй нават галадае, тады адбываецца інтэграцыя людзей у натоўп. Чалавек з натоўпу — раззлаваны, яго энергія накіравана на разбурэнне. У такі час вельмі небяспечна было праводзіць выбары прэзідэнта, таму што прэзідэнта выбірае не народ, а натоўп, і не прэзідэнта ён увогуле выбірае, а важака. Той, хто задумаў такое, можа атрымаць эфект бумеранга — зброі, якая вяртаецца на тое месца, адкуль была запушчана. Палітыка — не справа спрытнюг, брудных людзей, палітыка — гэта прагназаванне, у ёй павінны працаваць сумленныя і разумныя людзі.

**— А што можа ўратаваць?**

— Магла б і рэлігія. Але дрэнна, што нас яна падзяляе. Беларусы спавядаюць розную веру. Існуюць канфесіянальныя рознагалоссі.

**— Аднак адраджаецца уніяцкая царква. Магчыма, у гэтым наш паратунак?**

— Я перакананы ў адным: нам патрэбна адзіная канфесія. І ўтварэнне такой канфесіі адна з умоў аб'яднання нацыі. Аб гэтым трэба падумаць нашым інтэлектуалам, а менавіта аб утварэнні канфесіі на аснове сучаснага навуковага патэнцыялу і набыткаў хрысціянства.

**— Ёсць яшчэ трэцяя бяда — Чарнобыль. Ці не так?**

— Яшчэ і якая бяда. Я канчаў ваенную акадэмію, шмат гадоў займаўся рэгістрацыяй ядзерных выбухаў. І я разумею, што такое радыяцыйная небяспека для нашай нацыі. Чарнобыль прынёс больш бяды Беларусі, чым Другая сусветная вайна і ўсе іншыя, разам узятыя. Усе мы тут заложнікі Чарнобыля, усе ў адной запрэжцы і разам павінны ратавацца. А тым часам практычнай ахове здароўя насельніцтва не надаецца ніякай увагі. Адсутнічаюць нават прыборы першай неабходнасці — дазіметры. Радыяцыйная забруджанасць мясцовасці, якая пазначаецца на афіцыйных картах, гаворыць аб тым, што мы падпадаем пад уздзеянне дазіметрычных нагрузак, у тысячы і тысячы разоў вышэйшых за натуральны фон.

**— Што б Вы хацелі ад свайго імя сказаць вось гэтым людзям, якія тут, перад Вамі?**

— Я хацеў бы сказаць людзям Беларусі, асабліва маладым, што наша зямля святая, і яе трэба берагчы, ахоўваць так, як мы яе ахоўвалі і бераглі ў вайну, не баяліся ні гітлераўцаў, ні д'яблаў. Многія вывучалі гістарычны матэрыялізм і павінны ведаць, што ў нетрах старога заўсёды нараджаецца новае. Я хацеў бы, каб гэта новае, у тым ліку нацыянальная беларуская самасвядомасць, набірала сіл як мага хутчэй. А тое, што новае ў нашым жыцці з цягам часу абавязкова набярэ сіл і пераможа, я не сумняваюся.

**Гутарыла Ірына КРЭНЬ.**

***МЕРКАВАННІ***

Мікола КАПЫЛОВІЧ,
пісьменнік

## РЭЦЭПТ ЛЯЧЭННЯ

Надта ж абрыдлым і надакучлівым зрабілася слова «ідэалогія». А колькі нам даказвалі перавагу ідэалогіі сацыялістычнай над ідэалогіяй буржуазнай!

Вось трактоўка гэтага паняцця Кароткім палітычным слоўнікам 1989 года выдання: «Ідэалогія —сістэма поглядаў на прыроду, грамадства і асобу, а таксама каштоўнасцей, норм паводзін таго ці іншага класа, мэт і спосабаў іх даследавання, абумоўленых матэрыяльнымі, у першую чаргу вытворчымі адносінамі ў грамадстве». Мне такое вызначэнне здаецца даволі акрэсленым. Але, думаю, што яго можна было б сфармуляваць карацей і прымяняльна не толькі да класаў, але і да любых слаёў грамадства, выдзяляючы іх па любой прыкмеце, — па прафесійнай, маёмаснай, рэлігійнай. гучаць гэта павінна так: «Ідэалогія — гэта лад жыцця».

Вось тут і пачынаеш скрэбці леваю рукою правае вуха. Раз ідэалогія — гэта лад жыцця (а такое вызначэнне не пярэчыць палітычнаму слоўніку), то можна дасканала вызначыць, якая яна цяпер для любой суполкі людзей і, безумоўна, для дзяржавы ў цэлым. Можна было б гэта зрабіць, узяўшы для прыкладу якую-небудзь ідэалагічную групу. Але будзем эканомныя ў газетнай плошчы. Давайце лепш пагаворым аб ідэалогіі афіцыйнай, дзяржаўнай.

Пачнём? Пачалі і закончылі. Чаму? Ды таму, што афіцыйнай ідэалогіі... няма. Не існуе, мяркуючы па нашаму ладу жыцця. Куды ні кінь — усюды клін. Напрыклад, знешняя палітыка. Я ведаю пра яе, канешне, з газет і радыё, тэлебачання. Але, робячы абагульненні, зразумеў, што знешняй палітыкі ў маладой беларускай дзяржавы няма. Ёсць двурушніцтва, падхалімства перад краінамі ўсяго свету (перш за ўсё перад Расіяй). Прытым у такіх выразных формах, што толькі сляпы не ўбачыць.

Нашы кіраўнікі толькі і рабілі, што прасілі ў Расіі дапамогі. І Дземянцей, і Шушкевіч, і Кебіч выпрошвалі. Далі?

Навошта, зрэшты, гэта рабіць? Кожны мае свой інтарэс. Можна, безумоўна, даць міласціну жабраку, можна нават на міласэрнасць ахвяраваць, але ж хто будзе нас карміць за так? Дзе знойдзеце такіх дурняў, хто будзе за так дапамагаць нашай дзяржаве? Блізкія суседзі — Расія, Украіна — самі стогнуць ад эканамічнага крызісу. Я ўжо не кажу пра Прыбалтыку ці Польшчу. Тыя даўно адгарадзіліся ад нас высокім плотам. А краіны далёкага замежжа могуць нам дапамагчы толькі ў тым выпадку, калі ім будзе матэрыяльна карысна гэта рабіць. І нельга ўсур'ёз назваць ідэалогіяй імкненне да так званага рынку. Ды і ці разумеюць тыя, хто кліча нас у яго, што рынак — гэта толькі інструмент для адпаведнага — рыначнага ладу жыцця. А ці зрабілася, ці стала наша Канстытуцыя, якую толькі што прыняў Вярхоўны Савет, нашай новай ідэалогіяй? Сумняваюся. Ідэалогію нясе ў сабе люд. Ён выбірае лад жыцця. Якая цяпер ідэалогія людзей? Такая, што кожны шукае не лад жыцця, а спосаб выжывання.

Нашу дзяржаву зараз можна параўнаць з хворым чалавекам. А калі чалавек хворы — і тэмпература ў яго, і ліхаманка, і сардэчная нямогласць, і паразіты поўзаюць па целе. То хіба ўратуе яго адна аперацыя? Ніякім чынам. Трэба ў першую чаргу парадак і каб лекары паміж сабой не грызліся — па чыёй методзе лячыць. Найперш неабходна тое, што ведае кожная санітарка: трэба даць супакой, надзею на выздараўленне, згрэбці паразітаў з цела, перавязаць і лячыць. Так і з дзяржаваю.

Можа нехта падумае, што на Захадзе ідэалогіяй ніхто не займаецца. Толькі бізнесам. Памыляецеся, глыбока памыляецеся, панове. Яшчэ як займаюцца! І пачалі займацца не ўчора, а шмат вякоў назад. І царква, і навука, і даследчыя цэнтры, і дзяржаўныя структуры працуюць на гэта. Працуе вялізная, добра адладжаная машына, супрацьстаяць якой проста немагчыма. Надаць нашай краіне ідэалогію сапраўднай, а не папяровай дзяржаўнасці і незалежнасці, зберагчы яе нацыянальнае аблічча і ўсяляк укараняць яго ў жыццё. Вось аптымальны рэцэпт лячэння. Іншых варыянтаў няма.

Займацца гэтым павінны не спарахнелыя палітыкі, не акасцянелыя дагматыкі бальшавіцкай вывучкі і гарту, а людзі дзяржаўнага мыслення, людзі-стваральнікі, сапраўдныя, а не ўяўныя лідэры свайго народа.

**г. Маладзечна.**

***МЕРКАВАННІ***

# НЕ СТАРЭЙШЫ, А БОЛЬШЫ, МАЦНЕЙШЫ

Не магу зразумець, адкуль і чаму ў нас пайшло ўяўленне пра рускі народ у якасці «старэйшага брата». Знаёмства з фактамі старажытнай гісторыі не пацвярджае гэтага, бо рускія як народнасць і дзяржава аформіліся значна пазней за беларусаў.

Так, вядомы вучоны прафесар В.Мартынаў выказаў думку, што «першая міграцыя славян праходзіла ўздоўж Прыпяці да Дняпра далей на Поўнач і Поўдзень». Вось менавіта тыя мігранты і склалі ядро беларускай і ўкраінскай народнасцей. Зараз агульнапрызнана, што ва ўсходніх славян у VI—VIII стагоддзях існавалі трывалыя племянныя саюзы, а затым і «княжанні» з цэнтрамі ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку. Полацкае княства ў X—XIII стагоддзях было адным з самых старажытных сярод усходніх славян на бойкім водным шляху «з варагаў у грэкі». Яно мела самастойную дынастыю князёў (Рагвалодавічы), было галоўным канкурэнтам Кіева.

Аўтары «100 пытанняў і адказаў...» пішуць, што Полацкае княства з'яўлялася магутнай дзяржавай крывічоў-палачан (часткова і дрыгавічоў) у басейнах Заходняй Дзвіны, Бярэзіны і Нёмана. Яно стала ядром беларускай нацыі. Адзначаюць, што каля 992 г. была заснавана полацкая епархія, а найбольшага росквіту княства дасягнула ў XI ст. пры князі Усяславе Чарадзеі (1044—1101 гг.). Яно ўпарта адстойвала сваю незалежнасць ад Кіева, сумела выстаяць. У школьным падручніку «Гісторыя Беларусі» (1993 г.) гаворыцца, што Полацкае княства «праводзіла самастойную палітыку, фактычна не лічачыся з воляй кіеўскіх князёў». У.Ігнатоўскі ў сваім «Кароткім курсе гісторыі Беларусі» падкрэслівае: Полацкае княства ад пачатку было незалежным, толькі на некалькі гадоў (у першай палове XII ст.) яно трапіла ў залежнасць ад Кіеўскага княства.

У кнізе «Страницы истории» (з каментарыямі на нямецкай мове, Масква, 1984 г.) С.Сыроў назву «Русь» выводзіць ад назвы ракі Рось, на якой жыло племя рось або русь і якое аб'яднала славян на берагах Дняпра. Летапісец Нестар запісаў: «Палян цяпер завуць русь» (каля 944 г.). Цэнтрам рускай зямлі стаў Кіеў — «маці гарадоў рускіх». У X ст. да Кіеўскага княства былі далучаны землі славян-вяцічаў (і крывічоў) у вярхоўях Акі і Волгі. Тут утварылася Уладзіміра-Суздальскае княства, якое, па сцверджанні Г.Сагановіча, да канца XII ст. было невядомым і пачало развівацца з распадам Кіеўскага княства. Назва «Русь» сюды перанесена толькі ў першай палове XIII ст. Калі пачалося фарміраванне велікарускага народа, князь Юрый Далгарукі аб'яднаў навакольныя землі. У 1147 г. ён заснаваў Маскву, хадзіў на Кіеў, два гады быў вялікім князем, памёр у 1157 г. Пры яго сыне Андрэю Багалюбскім цэнтр Русі перамясціўся ў Суздаль, затым — ва Уладзімір, а пазней — у Маскву.

Асобна развівалася Ноўгарадская зямля «ільменскіх славян», якая да XII ст. уваходзіла ў склад Кіеўскага княства, а з яго распадам з 1136 г. стала рэспублікай. Аб усіх гэтых працэсах вельмі цікавую думку выказаў у свой час М.Багдановіч: «К канцу XIII ст. адлііліся ў даволі ўстойлівыя формы чатыры рускія народы: беларускі, велікарускі, украінскі і ноўгарадскі».

На Беларусі з упадкам Полацкага княства ў XIII ст. набрала сілы княства Наваградскае, а затым утварылася Вялікае Княства Літоўскае. Паміж ім і Масквой пачалося вострае сапернiцтва, якое суправаджалася бесперапыннымі войнамі. Масква ўрэшце ўзяла верх.

З гэтых і іншых прыкладаў робіцца відавочным, што сваяцтва беларускага і рускага народаў вынікае толькі з іх агульнага славянскага паходжання. Але паняцце «родныя браты» тут зусім не падыходзіць, бо браты — тыя, хто жыве ў адной сям'і, з адной калыскі. У гэтым сэнсе даводзіць старшынства рускіх —беспадстаўна. А ў дачыненні да нашага ўсходняга суседа лепш карыстацца словам «больш».

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік-пенсіянер.**
**г. Ашмяны.**

Беларускае замежжа

# Беластоцкі «Czasopis» у чэрвені

ШТОМЕСЯЧНЫ «Часопіс», выдаваны ў Беластоку на беларускай і польскай мовах, набывае папулярнасць. Змястоўны ягоны чэрвеньскі нумар.

Рубрыка «Меркаванні, погляды, выказванні» з'яўляецца шэрагам цытат з польскіх і беларускіх выданняў (у тым ліку і з «Нашага слова»), якія прадстаўляюць розныя, часам вельмі супярэчлівыя меркаванні аб сучасным стане грамадства ў Польшчы і Беларусі. Пад агульным загалоўкам «Мінуў месяц» «Часопіс» змяшчае вялікую падборку паведамленняў аб падзеях культурнага, грамадскага і палітычнага жыцця ў Беластоку, Бельску-Падляскім, Гайнаўцы, Гарадку, Варшаве, Менску, Гродне, Гомелі, Віцебску. Там жа надрукаваны нататкі аб святкаванні ўгодкаў беларускай гімназіі ў Літве, перамозе беларускіх спартсменаў на спаборніцтвах у Аўстраліі і выставе ў Іспаніі твораў Леона Тарасэвіча — вядомага беларускага мастака з Польшчы. Надрукаваны па-польску і прызначаны спецыяльна для польскіх чытачоў артыкул «Дзень святой Тройцы» расказвае аб традыцыях праваслаўнай абраднасці і святах беларускага народнага календара. Дзве публікацыі — «Штораз старэйшая тая Ялаўка, штораз цішэйшая» і «Старадаўняй літоўскай Пагоні...» з'яўляюцца рэпартажамі з Ялаўкі і Бранска — маленькіх гарадкоў на Беласточчыне, у якіх беларушчына пакінула і захавала свае сляды. Праблематыцы міжнацыянальных адносін на ўсходзе Польшчы прысвечана інтэрв'ю рэдактара «Часопіса» Юры Хмялеўскага з польскім гісторыкам і журналістам Лешкам Якубам Славіньскім пад назвай «Невядомая Беларусь». «Міжваенная Беларусь, тая, якую я помню, можа быць кепскім прыкладам прадпрымальнасці і імкнення да змен, але маральнасць і культура тых беларусаў могуць быць годным прыкладам для цяперашніх жыхароў Беласточчыны, і не толькі праваслаўных» —мяркуе гісторыя.

Рубрыка «Гісторыя» аб'ядноўвае два артыкулы. Першы — «Яшчэ адзін скарб Супрасля» — аб старэйшым рукапісе тамтэйшага манастыра «Супрасльскі кодэкс» XI стагоддзя, самое існаванне якога ёсць сведчанне аб шчыльных сувязях,якія ў XVI стагоддзі існавалі паміж праваслаўнымі манастырамі на Балканах, у Кіеве і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Другі артыкул з'яўляецца працягам пачатай раней публікацыі «Царква ў падзеях Бельска».

Агульнай для Польшчы і Беларусі праблеме заняпаду вёскі прысвечаны артыкул «Паміж традыцыяй і стагнацыяй».

Творчасці беларускай паэткі польскага паходжання Надзеі Артымовіч удзяляе ўвагу раздзел «Літаратурныя сувязі». Там жа змешчаны некалькі яе вершаў, надрукаваных кірыліцай і лацінкай па-беларуску.

Рубрыка «Меншасці ў свеце» пад загалоўкам «Лісты з Эйдховена» змяшчае некалькі ўрыўкаў са школьных сачыненняў галандскіх школьнікаў, прысвечаных праблемам адносін да нацыянальных меншасцей у краіне, праяў расізму і неталерантнасці.

Нумар, як заўсёды, замыкае «Хроніка мясцовасці» — артыкул пра гісторыю і сучаснасць вядомай з XVI стагоддзя вёскі Рогаўка.

У.П.

# «Гімназыя» ў гімназіі

Беларускі друк у Вільні мае даўнія традыцыі. У цяперашняй літоўскай сталіцы друкаваў кнігі Францыск Скарына, рэдагаваў «Нашу ніву» Янка Купала, выдаваў «Шлях моладзі» Язэп Найдзюк... Ужо ў наш час тут адрадзілася «Наша ніва», выдавалася «Вільня і край». А ў гэтым годзе спіс беларускамоўных выданняў Літвы папоўніла новая газета — «Гімназыя». Адметнасць яе ўжо ў тым, што ад пачатку да канца газета робіцца навучэнцамі нядаўна адроджанай Віленскай беларускай гімназіі — той самай, аб святкаванні 75-х угодкаў якой паведаміла не так даўно «Наша слова».

Што ўяўляе сабой «Гімназыя»? Чатыры старонкі фармату А-4, набраныя і змакетаваныя на камп'ютары ды тыражаваныя на ксераксе. Увесь наклад — некалькі дзесяткаў паасобнікаў— разыходзіцца паміж самімі гімназістамі і настаўнікамі. І чытаюць яны маленькую газету з цікавасцю, бо яна асвятляе жыццё гімназіі і гімназістаў менавіта з іхняга пункту гледжання, а значыць часам нечакана для іхніх бацькоў і настаўнікаў. Так, ужо традыцыйным стала штомесячнае апытанне вучняў, паводле вынікаў якога вызначаецца пяцёрка найлепшых, на думку навучэнцаў, настаўнікаў. На старонках газеты знаходзіцца месца для хронікі гімназіі, допісаў былых яе навучэнцаў, віншаванняў з днём нараджэння і з перамогамі ў краёвых вучнёўскіх конкурсах. «Гімназыя» публікуе артыкулы сваіх чытачоў і карэспандэнтаў, падборкі інтэрв'ю з вучнямі, урыўкі з іхніх сачыненняў.

Тое, чым з'яўляецца газета, тлумачыць кароценькі рэдакцыйны артыкул, змешчаны ў чацвёртым, травеньскім яе нумары: «Дарагія чытачы! Як бачыце, мы мяняем свой імідж. Робімся больш сур'ёзным выданнем. Мы просім Вас не забываць, што наша газета — гэта навучальная справа факультатыву паліталогіі... Мы імкнёмся ўсё рабіць у газеце сваімі сіламі, без вонкавых стылістаў ці карэктараў... Мы вучымся».

І гэта праўда. Віленская «Гімназыя» вучыць сваіх чытачоў і выдаўцоў не толькі мысліць па-беларуску, але і рабіць гэта самастойна. А гэта — найважнейшае.

У.ПАНАДА.

Філалогія

# Пішуць: «Манчэстэр» — чытаюць: «Ліверпуль», а грошы Бернарда Шоў так і не скарысталі

*(Гутарка з кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры граматыкі англійскай мовы Менскага лінгвістычнага універсітэта А.К.ШЧУКАЙ)*

**— Алена Канстанцінаўна, як вядома, англійская мова належыць да ліку найбольш распаўсюджаных як геаграфічна (Еўропа, Паўночная Амерыка, Аўстралія, Новая Зеландыя, Паўднёвая Афрыка), так і колькасна. На ёй размаўляюць мільёны людзей, для якіх яна з'яўляецца роднай, і яшчэ мільёны,ды мільёны, што карыстаюцца ёю як другою моваю. Для гэтага ёсць розныя прычыны, перш-наперш палітычнага і эканамічнага характару, якія выйшлі на першы план у XX стагоддзі і асабліва пасля 2-й сусветнай вайны. Нагадаем, што ў часы вялікага Шэкспіра англійскую мову мала хто ведаў па-за межамі Брытанскіх астравоў. Адметная, аднак, не толькі роля англійскай мовы ў сучасным свеце, але і яе гісторыя.**

— Англійская мова, як вядома, належыць да групы германскіх моў, але яе бліжэйшымі сваякамі з'яўляюцца нямецкая і нідэрландская (або галандская) мовы. І шмат якія словы ў англійскай і нямецкай мовах сведчаць пра гэта. Але кожны, хто знаёмы хоць крыху з англійскай і французскай мовамі, адразу ж заўважае ў іх вялікую колькасць слоў, якія супадаюць або блізкія ў напісанні, а часам падобныя і ў вымаўленні.

І такіх падобных слоў будзе значна больш пры параўнанні з нямецкай моваю, хаця генетычна англійская і французская мовы знаходзяцца значна далей, паколькі французская мова —прадстаўнік ужо іншай групы, а менавіта — раманскай, дзе яе бліжэйшымі жывымі суродзічамі будуць італьянская, іспанская ды партугальская мовы.

Праўда, тут можна заўважыць, што супадзенне ці падабенства паміж англійскімі і французскімі словамі часцей назіраецца ў сферы так званай абстрактнай лексікі.

**— Чаму гэта здарылася?**

— Справа ў тым, што гісторыя англійскай мовы сапраўды вельмі адметная, калі не унікальная. Пачаткам існавання англійскай мовы лічыцца V стагоддзе, калі некалькі германскіх плямёнаў, сярод якіх выдзяляліся ў першую чаргу англы і саксы, пачалі перабірацца з кантынента на Брытанскія астравы і адваёўваць іх у кельтаў. Паступова ім удалося гэта здзейсніць, і кельты засталіся толькі ў менш выгадных для жыцця месцах, такіх, як цяперашнія Уэльс або Шатландыя. З гэтай пары аж да XI стагоддзя мова, якую прынеслі з сабою англы і саксы і якая атрымала сваю назву ад племені англаў, развівалася эвалюцыйным шляхам, захоўваючы свае асноўныя германскія рысы, у тым ліку і націск на першым складзе слова.

Скандынаўскае нашэсце, якое пачалося ў VIII стагоддзі і працягвалася звыш за 300 год, прывяло да некаторых змен у англійскай мове, у першую чаргу ў яе слоўніку. Так, англійская мова таго часу папоўнілася новымі, запазычанымі словамі для такіх паняццяў, як муж, неба, акно, скура, паміраць, забіваць, дрэнны, шчаслівы і інш. (Усяго каля 900 адзінак.) Аднак скандынаўскі ўплыў не змяніў асноўных рыс англійскай мовы, паколькі скандынавы таксама належалі да германскіх плямёнаў.

**— Але і ў гісторыі англійскай мовы быў такі момант, калі і яна апынулася на сваёй роднай зямлі Папялушкай?**

— Сапраўды, у 1066 годзе надышоў паваротны пункт як у гісторыі краіны, так і ў гісторыі яе мовы. Англію заваёўваюць нарманы. Нарманы («паўночныя людзі»), скандынавы па паходжанні, за паўтара стагоддзя да таго захапілі прыбярэжную частку Францыі (цяперашняя Нармандыя), усталяваліся там і нават перанялі французскую мову. У Англію нарманы прынеслі новыя палітычныя і грамадскія структуры, у якіх яны занялі ўсе галоўныя пазіцыі, зрабіўшы адпаведна французскую мову пануючай. Французская мова запанавала пры каралеўскім двары, у афіцыйных установах, у школах, сярод розных колаў тагачаснага грамадства. Англійская ж мова на доўгі час (ажно да сярэдзіны XIV стагоддзя) апынулася на роднай зямлі сапраўды ў ролі Папялушкі: на ёй размаўлялі ў асноўным толькі сяляне ды дробныя рамеснікі і гандляры. Гэта становішча яскрава падаў Вальтэр Скот у сваім знакамітым гістарычным рамане «Айвенга».

Менавіта ў гэты гістарычны перыяд у англійскую мову было запазычана каля 10000 (!) французскіх слоў. Большасць іх — як гэта звычайна здараецца ў працэсе запазычання з іншых моў —былі назоўнікі. Спачатку шмат з запазычаных слоў адрозніваліся сваім гучаннем. Але з цягам часу яны прыстасаваліся да нормаў англійскай мовы настолькі добра, што зараз значную частку гэтых запазычанняў можна адрозніць ад карэнных англійскіх слоў толькі з дапамогай адпаведных або этымалагічных слоўнікаў. Тым больш, што па сваёй семантыцы або значэнні французскія запазычанні могуць належаць да самых розных сфер жыцця: палітыкі, рэлігіі, юрыспрудэнцыі, эканомікі, адзення, кулінарыі, адпачынку.

**— Такім чынам, яшчэ некалькі стагоддзяў таму ў англійскай мове быў зроблены значны крок у напрамку збліжэння з французскай моваі у абсягу іх лексіконаў?**

— Так. Трэба таксама дадаць, што негерманскі, менавіта раманскі кампанент у сучасным англійскім лексіконе павялічыўся яшчэ больш у эпоху Адраджэння, калі ў Еўропе ўзрос інтарэс да старажытнай рымскай і грэчаскай культуры і вялікую папулярнасць набыла лаціна. З яе праз кнігі ў англійскую мову прыйшло шмат слоў, якія да гэтага часу застаюцца адметна кніжнымі. Пры гэтым і французская культура, а значыць і мова ніколі не спынялі свайго ўплыву на англійскую.

У выніку лінгвісты падлічылі, што больш паловы (!) лексікона сучаснай англійскай мовы складаюць словы раманскага паходжання. Такім чынам, англійская мова (што тычыцца яе слоўнага складу) далёка адышла ад сваіх бліжэйшых суродзічаў — нідэрландскай і нямецкай, не гаворачы ўжо пра ісландскую, якая, як вядома, вельмі неахвотна ішла і ідзе на запазычанне іншамоўных слоў, у тым ліку і з французскай.

**— Можна сказаць, што сучасная англійская мова ў значнай ступені страціла сваю тоеснасць у параўнанні з сабою ж у папярэднія перыяды свайго існавання?**

— Так. І сучасным англійцам цяжка разумець, напрыклад, іх вялікага класіка Джэфры Чосэра (XIV ст.), не кажучы ўжо пра больш старажытныя тэксты IX—XIII стагоддзяў. Бо побач са слоўнікам, таксама радыкальна, змянілася граматыка: англійскія назоўнікі і дзеясловы страцілі амаль усе свае канчаткі, зніклі ўсе канчаткі ў прыметнікаў, з'явіўся цэлы шэраг аналітычных форм у дзеясловаў, стаў абавязковым фіксаваны парадак слоў у сказе. Карацей кажучы, англійская мова за 15 стагоддзяў свайго існавання з мовы сінтэтычнай ператварылася ў мову тыпова аналітычную.

**— Ці закранулі змены і фанетыку, гэта значыць, і вымаўленне слоў?**

— Безумоўна. Большасць англійскіх слоў у XX стагоддзі вымаўляюцца інакш, калі параўнаць іх вымаўленне, напрыклад, з XIV стагоддзем, не кажучы ўжо пра ранейшы перыяд.

І тут трэба падкрэсліць, што спецыфічнай рысай англійскай мовы з'яўляецца не сам факт яе зменлівасці (кожная жывая мова не можа не мяняцца), але хуткасць і радыкальнасць гэтых змен.

**— У чым жа тады кансерватызм англійскай мовы? Чаму ў ёй, як кажуць, пішуць «Манчэстэр», а чытаюць «Ліверпуль»?**

— Так, англійская мова сапраўды адначасова і кансерватыўная, але кансерватыўным застаецца ў ёй па сутнасці толькі напісанне, або правапіс. Сапраўды, шматлікія англійскія словы пішуцца зараз, у XX стагоддзі, так, як яны вымаўляліся ў сярэднявечны перыяд, да XV стагоддзя.

Тут мы сутыкнёмся яшчэ з адным парадоксам у гісторыі англійскай мовы. Кожны, мабыць, будзе згодны, што з'яўленне ў краіне кнігадруку — з'ява надзвычай прагрэсіўная. Дык што ж адбылося ў Англіі? Першым англійскім друкаром быў Уільям Кэкстан, кнігі якога ўбачылі свет у апошняй чвэрці XV стагоддзя, калі англійскі правапіс яшчэ не быў уніфікаваны або якім-небудзь чынам нармалізаваны, а фанетычныя змены, асабліва ў вымаўленні галосных, ішлі вельмі актыўна. Кэкстан жа сваімі кнігамі, якія распаўсюдзіліся па ўсёй Англіі, замацаваў у якасці стандарта такое напісанне, якое адлюстроўвала вымаўленне многіх слоў яшчэ ў папярэднім стагоддзі. Кэкстан памёр, час ішоў, вымаўленне шматлікіх слоў змянілася. Але ніякіх значных рэформ у англійскім правапісе не адбывалася —слынны англійскі кансерватызм з яго вернасцю традыцыям стаў на шляху да відавочнага прагрэсу.

**— А калі зараз такую рэформу здзейсніць, адмовіцца ад традыцыйнага напісання шматлікіх слоў і зблізіць яго з сучасным вымаўленнем?**

— А як жа быць тады з усімі тэкстамі, надрукаванымі раней? Перавучаныя на новы лад англійцы не змогуць іх чытаць або будуць рабіць гэта з цяжкасцю.

У свой час вядомы пісьменнік Бернард Шоў вельмі настойваў на такой рэформе і ўводзіў элементы новага правапісу ў тэксты сваіх п'ес. Ён нават пакінуў значную суму грошай для распрацоўкі сістэмы новага правапісу. Але рэальных вынікаў гэта не дало. Прагматычныя амерыканцы, якія лічаць сябе больш дынамічнай нацыяй, таксама здзейснілі ў гэтым напрамку вельмі мала. Яны выкінулі, напрыклад, лішнюю «нямую» літару «і» са слоў тыпу humour, colour і пішуць іх крыху карацей: humor, color. Але і тут да сапраўднай рэформы так далёка!

**— Такім чынам, гісторыя англійскай мовы дэманструе адначасна як радыкальны дынамізм — перш за ўсё ў развіцці граматычнага ладу і лексікону, — так і кансерватызм яе арфаграфіі?**

— Так. І вынікам гэтага можна лічыць адносную прастату англійскай граматыкі, з аднаго боку, і відавочную складанасць яе арфаграфіі — з другога.

Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

Беларускае замежжа

# «BELARUSIAN REVIEW», Vol. 6, No. 1 Spring 1994

Змест чарговага нумара англамоўнага штоквартальніка, як і папярэдніх яго нумароў, багаты і разнастайны. Тут друкуецца шырокая інфармацыя з жыцця Рэспублікі Беларусь. Яна, безумоўна, зацікавіць англамоўных чытачоў усяго свету, якія праяўляюць інтарэс да нашай краіны. На гэты раз у цэнтры ўвагі выпуску — выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Чытачам падаецца кароткая інфармацыя пра кандыдатаў у прэзідэнты, партыі, якія яны прадстаўляюць. Характарызуецца агульная палітычная сітуацыя на Беларусі напярэдадні выбараў. Пра ўсё гэта распавядаюць прафесар гісторыі з Канады д-р Дэвід Маплз і рэдактар часопіса Дж.Прайс.

Пад рубрыкай «Падзеі» друкуюцца каментарыі Арта Турэвіча з нагоды прыняцця 15 сакавіка г.г. новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Аўтар спыняецца на асноўных адрозненнях паміж старой Канстытуцыяй і толькі што прынятай, а таксама падае пункт погляду на гэтую палітычную падзею апазіцыі ў Вярхоўным Савеце РБ.

Англамоўныя чытачы змогуць прачытаць і пра цяперашні стан гаспадаркі на Беларусі. Пад рубрыкай «Эканоміка Беларусі» змешчаны ўрыўкі з артыкула народнага дэпутата Уладзіміра Новіка, надрукаванага ў газеце «Свабода» за 8—14 сакавіка 1994 года і прысвечанага пытанням эканамічных адносін паміж Беларуссю і Расіяй.

Часопіс працягвае рубрыку «Спадчына Чарнобыля». У апошнім нумары аналізуюцца вынікі другога міжнароднага з'езда Беларускага дабрачыннага фонда «Дзецям Чарнобыля», які адбыўся ў красавіку 1994 года.

Рубрыка «Беларускае замежжа» цалкам прысвечана 76-м угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Святкаванне гэтага дня беларускай дыяспарай адбылося ў Нью-Брунсвіку. Спонсарамі сталі Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне і Беларуска-Амерыканскае Згуртаванне моладзі. З дакладам выступіў д-р Янка Запруднік, яго выступленне таксама публікуецца ў нумары.

Англамоўныя чытачы могуць даведацца не толькі пра палітычнае і эканамічнае становішча Беларусі, але і пра падзеі з нашага культурнага жыцця. Значнае месца ў нумары займаюць вытрымкі з беларускіх газет і часопісаў.

Л.Б.

*Створым Гімн Беларусі разам!*

# Жыве Беларусь!

1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!
2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.
3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,
4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.
5. Хай жа ніколі ён не загіне!
6. Бог захавае Белую Русь.
7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.
8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
9. Праца народа моц і свабоду —
10. Годнасць гартуе з году ў год...
11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,
12. Люд Беларусі — слаўны народ.
13. Хай жа ніколі ён не загіне!
14. Бог захавае Белую Русь.
15. Наша адданасць — мілай Радзіме.
16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,
18. Рэкі павольныя, светлыя тут.
19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...
20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!
21. Хай жа ніколі ён не загіне!
22. Бог захавае Белую Русь.
23. Наша адданасць — мілай Радзіме.
24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!



А просьбе чытачоў паўтараем тэкст верша Уладыслава Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Беларускі Гімн. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым.

Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэкста, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагі і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Рэдакцыя ўжо атрымала некалькі прапаноў па тэлефоне. Вырашана ўлічыць прыватныя заўвагі адносна ўдакладнення некатарых момантаў пунктуацыі, але ў далейшым, паважаныя чытачы, падавайце свае прапановы ўсё ж у пісьмовай форме. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў.

Першыя водгукі-лісты будуць апублікаваны ў наступным нумары газеты. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

**Рэдакцыя**

*ЧЫТАЛІ?*

## Ведаць вартасці спадчыны

Які некаторыя папярэднія нумары, трэцяя кніжка часопіса «Спадчына» за сёлетні год уражвае багаццем арыгінальных гістарычных і культуралагічных матэрыялаў. Публікацыі «Спадчыны» — нібы асобныя раздзелы ў агульнаадукацыйны падручнік па гісторыі Беларусі.

Адкрываецца трэці нумар інфармацыйна-даведачным артыкулам «Пад знакам генаду». Да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў «Спадчына» ўзгадвае вёскі, што заніклі ў агні разам з жыхарамі, а таксама друкуе спіс найбольш буйных нацысцкіх лагераў смерці на часова акупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гг. Магчыма, не абыдуць увагай гэтую публікацыю мясцовыя краязнаўцы. Мо падштурхне іх часопіс кінуць погляд на мясціны вечнай памяці?.. На тыя мясціны, дзе зараз часам ствараюцца сметнікі на колішніх людскіх папялішчах.

Пад рубрыкай «Адлюстраванні» — працяг касцюшкаўскай тэмы. Гэтым разам чытач мае магчымасць пазнаёміцца з артыкулам «Касцюшка. Сяхновічы—Бярвіль». Публікацыя багата ілюстравана. Незнаёмыя старонкі вайсковай гісторыі — і ў публікацыі Аляксандра Мікалаевіча «Бежанцы першай сусветнай вайны».

Вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч выступае з артыкулам «Пра герб горада Слуцка». Штуршком да напісання гэтага матэрыялу стала блытаніна вакол рэканструкцый старажытнага герба Слуцка. А. Грыцкевіч уступае ў палеміку з А.Цітовым і Т.Габрусь.

Традыцыйяй становіцца ў «Спадчыне» зварот да сучасных праблем культуры. Карэспандэнт часопіса бярэ інтэрв'ю ў выконваючай абавязкі адказнага сакратара Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Наталлі Жылевіч — «Далучэнне да ЮНЕСКА».

У трэцім нумары завяршаецца публікацыя раздзелаў з кнігі ўспамінаў Я.Германовіча «Кітай—Сібір—Масква». Рубрыка «Інтэрпрэтацыі» знаёміць з працягам (пачатак быў надрукаваны яшчэ ў першым сёлетнім нумары часопіса) манаграфіі А.Грыцкевіча «Гісторыя геапалітыкі Беларусі». Аўтар разглядае геапалітыку беларуска-літоўскай дзяржавы ў XVI—XVIII стагоддзях. Вучоны ў сваім разглядзе мінуўшчыны падыходзіць ушчыльную да часу, калі «пачалася новая эпоха ў гісторыі Беларусі, у гісторыі беларускага народа. Эпоха гвалтоўнай русіфікацыі, пазбаўлення і выкаранення нацыянальнай адметнасці ды гістарычнай памяці, але і эпоха нацыянальна-вызвольнага руху, паўстанняў, а потым — і Адраджэння».

Да тэмы паўстання 1794 года звяртаецца і гісторык Уладзімір Емяльянчык. Ён, у прыватнасці, разглядае дыверсійныя рэйды ў тагачасных падзеях, аналізуе ратнае майстэрства ўдзельнікаў барацьбы за «волю, роўнасць і незалежнасць». Менавіта пры дапамозе дыверсійных форм змагання супраць расійскіх акупацыйных войскаў беларускія касцюшкаўцы імкнуліся пашырыць вызвольны рух далёка за межы ацалелае часткі Вялікага Княства Літоўскага, на акупаваныя Расіяй тэрыторыі ў выніку другога і першага падзелаў Рэчы Паспалітай і нават далей.

З іншых цікавых матэрыялаў трэцяга нумара «Спадчыны» прыцягваюць увагу артыкулы Галіны Нячаевай «Іконы на Ветцы», Марыны Лінніковай «Новае пра Усяслава Чарадзея», Тамары Габрусь «Здань базыльянскай святыні».

Нельга абысці ўвагай і артыкул «Этнаграфічныя малюнкі Язэпа Драздовіча» Міхася Раманюка. Публікацыя багата ілюстраваная —пададзена каля дзесятка рэпрадукцый твораў гэтага самабытнага майстра.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

## БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА ДАПАМАГАЛА ВЫЖЫЦЬ І НЕ СКАРЫЦЦА

Некалі ў адным з лагерных пунктаў Варкуты ў 1951 годзе па прапанове беларусаў-палітзняволеных я напісаў верш, паспрабаваўшы ўкласці ў ягоныя радкі думкі і памкненні сяброў і свае ўласныя. Я быў прыемна ўсхваляваны, калі даведаўся, што гэты верш пачалі перадаваць адзін другому зняволеныя беларусы. Колькі разоў менавіта беларускае роднае слова дапамагала нам выжыць у сталінскім пекле і не скарыцца. Пазней, ужо вярнуўшыся дадому, у 1980 годзе я напісаў у Глуску верш-шкадаванне, што мова гіне, бо ад яе адвучылі і адлучылі дзяцей. Цяпер я так не думаю, бо ёсць і шырыцца з кожным днём дружына яе шчырых заступнікаў. А той, варкуцінскі, верш прапаную чытачам «Нашага слова» як сціплы штрышок з гісторыі беларускага змагання за волю і Айчыну.

*З павагай Лявон СЛУЧАНІН.*

## Гімн выгнанцаў

Не! Ніколі, ніколі, нікому
не спыніць красавання пару.
Мы пакінулі радасці дому,
каб не кідаць цябе, Беларусь!
І сягоння далёка за светам,
дзе на месяц цяпла нестае,
здабываючы вугаль саветам,
мы душою і сэрцам тваё.
Не прымусяць палярныя ночы,
ні пакутныя дні Варкуты
нас забыць абавязак сыночы,
адрачыся святая святых.
І куды б нас ні кідалі каты
І бядзе спачуваючы лёс,
ты нам сілу прыносіш за краты,
наша маці з азёрамі слёз.
Мы табе як сыны прысягаем
на суровым шляху барацьбы:
не прымусяць ні пеклам, ні раем
нас цябе, дарагая, забыць!
А калі на далёкай чужыне
нас да ніткі дзялкі абяруць,
лепш у тундры халоднай загінем,
а не здрадзім табе, Беларусь!

**1951 г.**

*Бацька казаў...*

**Васіль РАГАЎЦОЎ,**
**выкладчык**

## 2. Пра Хадору

Дзве, яшчэ з давайны, сяброўкі. Слова за слова. Разгаварыліся.

— Ну, як там Хадора крэпіцца? Даўнечька яе ні бачыла. Мо гадкоў зь дзісятак, а мо й таго болей... Усё жалілася на здароўе.

— Хадора? О-о-о! Як сямнаццатка тая... Хоць бы адна маршчынка на целі. А йдзе — век канём ні дагоніш. Чыстая праўдачка...

— І што ты, тайка мая, кажыш?.. А хворая ж была... Такая нямоглая.

— Ды ў яе здароўя — на траіх хопіць. Ведама ж, пасьля вайны ў калхоз ні хадзіла. Што тады плацілі на тыя трудадні? Капейчыну нішчасную. А мужчынскай сілы, ты ж сама знаіш, ні хапала. Вайна... Каб на яе ліха! Вот і прыходзілася лямку цягнуць. Ад цямна й да цямна. А Хадора — усё на спраўках сядзела. З кім ні стрэціцца — ой, у яе даўленне высокае. І хоць бы як выжыць... А чарку, таячка мая, добра давіла. І ў сьвята, і будзень. Калі прыкініцца.

— А ці поўзае яе Халімон?

— Халімонка? Даўно-о-о зямельку парыць. Рабіў жа як той вол. Стыкання яму ні было. Калхоз... Хадзяйства такоя... Затое Хадора — і ціпер гульма гуляя, толькі й зная, што хаты шшывая. Цэлымі днямі. Так і глядзіць, каб дзе ўкусіць чаго, а дзе дык і... закусіць.

— Во табе й Хадора!... — у адначассе прамовілі сяброўкі і на часінку змоўклі.

# Гісторыя ў анекдотах

### *Дасціпны люд паспаліты*

Адразу адзначым, што не так проста знайсці больш-менш сур'ёзны дакумент, пісьмовую крыніцу з тых аддаленых стагоддзяў, дзе б вось так проста фігураваў у гумарыстычнай сітуацыі, вартай анекдота, чалавек звычайны ці нават са збяднелай канчаткова шляхты, які шукаў сродкаў для жыцця, не маючы галоўнага тады багацця — зямлі. Але ж ва ўсе часы былі і нешта тварылі гараджане, сяляне, святары, манахі, студэнты, а то і проста —мужыкі і бабы, хлопцы і дзеўкі, нават аднолькавыя па інтарэсах незалежна ад паходжання дзеці. Паспрабуем прыглядзецца і да іх, тым больш што ў гэтым яны самі нам дапамогуць дзякуючы неўміручай традыцыі вуснай творчасці. Не збіваючыся на разгляд розных жанраў, усё ж заўважым, што калі ў казцы народ-складальнік фармуляваў сваю мару, у паданні — веру, то ў анекдоце — забаўляўся як хацеў. Паспаліты анекдот адкрыта, часта бязлітасна смяецца з усяго і ўсіх на свеце, нікому нічога не даруючы і не просячы прабачэння...

А цяпер, падыходзячы непасрэдна да нашага прадмета, зробім спробу адшукаць анекдот, які бясспрэчна прэтэндуе на старажытнасць...

Хто ж з персанажаў зможа набраць больш за ўсіх ачкоў у прэтэнзіі на старажытнасць? Канешне — манахі. Асабліва калі вызначана, да якіх ордэнаў яны належаць. Ды яшчэ, што карыстаюцца лацінскай мовай, бо, вядома, яна з'ўлялася тады ў Еўропе міжнароднай, а пазней адышла ў цень.

*У карчме сустрэліся езуіт, дамініканец і бернардзінец. Было ўжо даволі позна, таму гаспадар нічога не змог запрапанаваць з ежы, апрача аднаго-адзінага яйка, якое толькі што знесла курыца. Палічыўшы гэту падзею за добры Божы знак, манахі папрасілі зварыць ім тое яйка, а самі сталі разважаць, якім жа чынам такую «вячэру» раздзяліць на тры роўныя часткі. Пасля доўгіх дэбатаў за слушную прынялі прапанову бернардзінца: хто скажа найбольш адпаведнае моманту выслоўе з Біблii, таму аддаць усю «порцыю».*

*Першым узяў слова езуіт і сказаў па-латыні:*

*— Выйдзі з дому твайго, — разбіўшы яйка і аблупіўшы, ён хацеў ужо пачаць трапезу, але іншыя запратэставалі.*

*— Прымі соль мудрасці, — сказаў дамініканец, пасыпаў соллю яйка і раскрыў рот, каб яго туды накіраваць, як ізноў раздаліся галасы пратэсту.*

*Такім чынам, засталося нешта сказаць бернардзінцу.*

*— Здзейснілася! — коратка і энергічна працытаваў ён з Святога Пісання і тут жа рэалізаваў думку на вачах разгубленых калег.*

*Мужык усю ноч гуляў у карчме, а калі ўжо стала развідніваццa, адправіўся дахаты. Сорамна яму стала, таму яшчэ ў двары скінуў абутак, у сенцах — вопратку, каб не пабудзіць жонку, і асцярожна стаў прабірацца да пасцелі.* Але *ў апошні момант зачапіўся за калыску і, каб не напалохаць дзіця, стаў яе старанна калыхаць. Тут жонка прачнулася і з усмешкай спытала:*

*— Ой, які ж ты малайчына, толькі чаму так рана ўстаў?*

*— Ды вось... Раніца цудоўная... Шкада дня, пайду зараз пакашу.*

*— Добра, але калыску пакінь, бо дзіця спіць тут, са мною.*

*Дзве суседкі разважалі пра жыццё-быццё, і адна запыталася, што рабіць, бо яе мужык амаль штовечар наведвае карчму, занядбаў гаспадарку і сям'ю.*

*— Ёсць, даражэнькая мая, толькі адзін выхад.*

*— Які ж гэта?*

*— Зрабіць шынок у сваёй хаце.*

*Зайшоў неяк у карчму бедны студэнт. Прыняўшы больш-менш дастойны выгляд, ён заказаў сабе добры пачастунак. А калі бедалага, які не меў грошай, падсілкаваўся, да стала наблізіўся служка і спытаў, ці не падаць чаго яшчэ.*

*— Як сабе хочаш, — адказаў студэнт.*

*— Можа, пазваць гаспадара? — прапанаваў служка, калі нічога больш не дабіўся ад кліента.*

*— Як сабе хочаш, — пачулася ў адказ.*

*З'явіўся карчмар, які разлавана заявіў, што зараз возьме гэтага госця за каўнер і выкіне на вуліцу.*

*— Як сабе хочаш, — абыякава вымавіў той.*

*Раз'юшаны гаспадар, забыўшыся пра грошы, схапіў студэнта, які і не бараніўся, пацягнуў да дзвярэй і выштурхнуў...*

Такім чынам відаць, што карчма розуму вучыць. Але пара ўжо і нам у дарогу падавацца. А «на пасашок» яшчэ такая вось гісторыйка, якая была падслухана ў адной «карчме на літоўскай граніцы», кажучы словамі класіка.

*У сярэднявеччы існаваў такі звычай: калі кагосьці вялі на шыбеніцу, а дзяўчына з натоўпу кідала на яго свой рантух (верхнюю хустку), то асуджанаму даравалі жыццё, вызвалялі і адразу жанілі са збавіцельніцай.*

*Дык вось, усё так спачатку і адбывалася. Эскартуюць нейкага маладога ды прыгожага злачынца да месца пакарання. У злавеснай працэсіі ідзе і кат, вядомы ўсім Якуб. Вакол — сотні цікаўных, бо тады бясплатна можна было паглядзець толькі два масавыя відовішчы: пакаранне смерцю на плошчы ды пажар.*

*Раптам з натоўпу выскоквае баба не першай маладосці і кідаецца са сваім рантухом да таго асуджанага малайца. Ён жа, як угледзеў, што за фартуна чакае яго, закрычаў спалохана: «Пане Якубе, хутчэй да шыбеніцы!»*

**Л.К.**

РАМОНКІ ЛІПЕНЯ Фотаэцюд В. БЫКАВА.

ПЫТАННЕ — АДКАЗ

# САМААБАРОНА: АД КАРАТЭ ДА «КРЫЖА»

*Паважаная рэдакцыя! Як і многія мае аднагодкі, я займаюся адным з усходніх стыляў баявога майстэрства. Але мяне вельмі цікавіць, ці быў у нас, беларусаў, свой комплекс прыёмаў самаабароны без зброі?*

*Яўген ЛАМАНОВІЧ.*

*Менск.*

КАБ адказаць на пытанне чытача, карэспандэнт «Нашага слова» У.Панада сустрэўся з сябрам Беларускага згуртавання вайскоўцаў, інструктарам 1-й катэгорыі баявога самба (самаабароны без зброі) Міхаілам Качарам. У наступных нумарах мяркуем надрукаваць шэраг падрыхтаваных з ягонай дапамогай артыкулаў, прысвечаных тэме майстэрства абароны без зброі. Але напачатку прапануем увазе чытачоў агляд шляху развіцця баявых майстэрстваў у свеце і ў Беларусі.

Інтарэс аматараў спорту ўсяго свету да нацыянальных школ баявога майстэрства ўзнік не ў апошнія гады. Яго ўздым прыпаў на пачатак XX стагоддзя — час, калі максімальна пашырыліся кантакты паміж культурамі Еўропы і Амерыкі, з аднаго боку, і краін усходняй і паўднёва-ўсходняй Азіі — з другога. Бо да канца мінулага стагоддзя закрытай для ўсяго свету краінай заставалася Японія, а кантакты Кітая з вонкавым светам больш нагадвалі кантакты калоніі з метраполіяй. У выніку палітычных змен, якія адбыліся ў гэтых краінах напрыканцы XIX стагоддзя, еўрапейцы атрымалі доступ да іх культуры і традыцый. Тады ж пачалося пранікненне на захад традыцыйных для краін Азіі і амаль забытых у Еўропе традыцый бою без ужывання зброі.

Адной з самых старых яго школ была японская джыу-джыцу (дзю-дзюцу) — сістэма абароны і нападу без зброі, якой мусіў валодаць кожны самурай. Асноўнымі яе прыёмамі былі ўдары па найбольш чулых месцах цела, спалучаныя з кідкамі з выкручваннем суставаў. Прыёмы джыу-джыцу, створаныя як сродак бою, а не гульні, з'яўляліся небяспечнымі для здароўя і жыцця, але на мяжы XX стагоддзя гэта сістэма набыла шырокую папулярнасць у Еўропе і Амерыцы.

Каратэ (каратэда) — «шлях пустой рукі» — сістэма, якая таксама ўзнікла ў Японіі. Па сутнасці, яна была японскім эквівалентам адной з самых старажытных тэхнік бою без зброі, распаўсюджанай у Кітаі пад назвай у-шу (кунг-фу). Японскае каратэ стваралася ў асяроддзі простага люду як супрацьвага ўжыванага самураямі джыу-джыцу. Ад іншых сістэм баявога майстэрства каратэ адрозніваецца адносна нязначнай колькасцю прыёмаў і перавагай удараў, да 70 % якіх наносіцца нагамі. У сваім сучасным выглядзе сістэма сфармавалася напачатку XX стагоддзя як вынік адбору, сістэматызацыі і мадэрнізацыі ранейшых набыткаў, а таксама ўжывання прыёмаў той жа джыу-джыцу.

. Напрыканцы XIX стагоддзя заснавальнік школы дзюдо — «мяккага шляху» — Дзігаро Кано на базе традыцыйных японскіх школ самаабароны, у першую чаргу — джыу-джыцу, распрацаваў новы спосаб спартыўнай барацьбы. Небяспечныя для жыцця прыёмы школ-папярэдніц ім былі пераведзеныя ў баявы раздзел ці скасаваныя. Дзюдо ў параўнанні з іншымі спосабамі барацьбы мела значныя перавагі: менш умоўнасцей і прыстасаванасць да практычнага ўжывання. Але разам з тым высокі аўтарытэт яго стваральніка кананізаваў не толькі перавагі, але і недахопы дзюдо. Гэты стыль застаўся заціснутым у вузкія межы канонаў, якія не дапускалі існавання больш эфектыўных метадаў бою.

АШТО адбывалася ў Еўропе? У розных яе краінах існавалі свае нацыянальныя школы баявых майстэрстваў. У канцы XIX стагоддзя, у час уздыму алімпійскага руху з яго ідэалам частай гульні, у Францыі быў распрацаваны від барацьбы, якая пазней атрымала найменне класічнай. Прыёмы гэтага стылю былі заснаваныя на рухах рук і корпуса. Адсутнічалі захопы ніжэй пояса, падножкі, падсечкі. Гэты від спаборніцтва меў усе прыкметы чыстага спорту, а не бою. Але Еўропа мела і іншыя традыцыі. Так, заснавальнік еўрапейскага дзюдо Г.Конзумі, вывучаючы працы Ф.Аўэрсвальда ды іншых еўрапейскіх майстроў, са здзіўленнем напісаў у сваёй кнізе: «У XVI стагоддзі ў Еўропе ведалі джыу-джыцу». Аднак прыёмы бою, адлюстраваныя на гравюрах сярэднявечных еўрапейскіх кніг (напрыклад, «Барацьбы» Ганса Вурма, выдадзенай у Лангедуце ў 1511 годзе), мелі мала агульнага з азіяцкімі баявымі майстэрствамі. Вядома, што ў сярэднявеччы папулярнымі былі турніры закаваных у сталь цяжка ўзброеных рыцараў. Але ж таксама вядома, што вялікую папулярнасць мелі барцоўскія турніры, удзельнікамі якіх былі мяшчане, паспалітыя людзі. Прыёмы барацьбы, ужываныя падчас іх правядзення, сваёй дзейнасцю нічым не саступалі вядомым цяпер усходнім сістэмам бою. Ужываліся кідкі ў спалучэнні з ударамі, болевыя прыёмы супраць узброенага праціўніка — паводле цяперашніх нормаў — баявыя прыёмы самаабароны.

Толькі на Брытанскіх выспах існавала некалькі стыляў бою. Найбольш блізкімі да сучасных спартыўных спаборніцтваў былі кумберлэндскі і вэсткумберлэндскі стылі, якія былі барацьбой узахоп без ужывання падножак. Другія два блізняча падобныя стылі — карнуэльскі і дэваншырскі — дазвалялі захопы толькі за адзенне і ўжыванне кідкоў нагамі. Такая разнастайнасць надзвычай папулярных у народзе стыляў нават стварала пэўныя праблемы: прыёмы, дазволеныя ў адным, лічыліся забароненымі ў другім. Рознымі былі і спосабы вызначэння пераможцы: адна школа патрабавала прыціснуць праціўніка да зямлі ўсім целам, другая — прымусіць крануць яе яшчэ адной кропкай цела, акрамя ног. Усё скончылася нараджэннем чыста англійскага стылю бою —»кеч эз кеч кэн», — які дазваляў выкарыстанне любых прыёмаў. Адразу трэба патлумачыць, што гэты традыцыйны народны стыль бою нельга блытаць з сучасным амерыканскім кечам —тэатралізаванай бойняй без правілаў, якая больш нагадвае шоу.

Што да традыцыйнага англійскага бокса, дык гэты спосаб бою меў выключна абарончыя функцыі. Аднак нават сустрэчы сучасных баксёраў-прафесіяналаў у параўнанні з двухбоямі тагачасных англійскіх баксёраў нагадваюць бойку падушкамі. Шаломаў, пальчатак, гумавых пракладак у роце на той час не існавала. Бойка вялася голымі кулакамі. Дазваляліся ўдары локцямі, каленямі, кідкі з дапамогай ног, захопы локцем за шыю і гэтак далей. Бокс быў не спортам, а жорсткім і эфектыўным спосабам самаабароны.

Тым часам тут, на ўсходзе Еўропы, першым сведчаннем існавання сістэм бою без зброі з'яўляецца летапіс, паводле якога ў 993 годзе лепшы баец Кіеўскай Русі Ян Усмар перад бітвай з печанегамі выйшаў на двухбой з печанежскім асілкам. Малады русін «удави печенезина в руках до смерти и удари им о землю». Эпізоды падобнага зместу сустракаюцца ў розных летапісах, зразумела, без апісання прыёмаў бою.

Згадкі, якія сустракаюцца ў розных крыніцах і датычаць стыляў барацьбы, практыкаваных непасрэдна ў Беларусі дазваляюць зрабіць выснову: народная барацьба падзялялася на тры віды: за пасы, да крыжа і на крыжы.

Барацьба «за пасы» (дарэчы, гэта слова, захаванае ў польскай мове, азначае барацьбу ўвогуле) вялася з захопам праціўніка за пояс. Забараняліся кідкі з дапамогай ног. Усе прыёмы выконваліся рукамі і корпусам.

Барацьба «да крыжа» найбольш нагадвала сучасную вольную барацьбу і мела багаты арсенал прыёмаў. Захоп выконваўся, як і сучасным самба, за адзенне на грудзях, або за каўнер адной ці абедзвюма рукамі. Дазваляліся штуршкі, падножкі, захопы за ногі, падбіўка калень праціўніка нагой. Пераможцам лічыўся той, хто прыціскаў праціўніка спіною да зямлі і ўтрымліваў яго рукі разведзенымі ў бакі. Поўнымі адпаведнікамі «да крыжа» можна лічыць апісаныя раней карнуэльскі, дэваншырскі стылі барацьбы ў Англіі.

Барацьба «на крыжы» была найбольш набліжанай да сучаснага паняцця спартыўнай, ці, у тагачасным разуменні, да гульні. Праціўнікі абхоплівалі адзін аднаго, счапляючы рукі на спінах. Захоп звычайна рабіўся так, каб правая рука прайшла пад левай рукой другога ўдзельніка. Дазваляліся кідкі, забараняліся падножкі, падсечкі, кідкі нагамі. Пераможцам лічыўся той, хто валіў праціўніка на зямлю.

Тым не менш, ніводзін з гэтых стыляў так і не ператварыўся ў сістэму бою. Каб зразумець, чаму так адбылося, трэба ведаць: утварэнню кожнай з сістэм баявога майстэрства спрыяў стан грамадства і краіны, у якой гэтая сістэма паўставала. Так, бразільская капоэйра — бой, у якім усе ўдары наносяцца нагамі, — стварылася ва ўмовах рабства, калі закон прадугледжваў пакаранне смерцю нявольніка, які ўздымаў руку на гаспадара. Славутыя японскія нунчакі — гэта не што іншае, як цэп для абмалоту рысу, якім сяляне, не маючыя права валодаць зброяй, карысталіся дзеля самаабароны ад добра ўзброеных самураяў. Валоданне у-шу было адзіным спосабам абароны жыцця кітайскіх манахаў, якім ужыванне зброі для самаабароны забаранялі догмы будызму. Звышзадача карэйскага тхэкуандо —ударам нагі выбіць з сядла вершніка — сфармулявалася падчас сутычак не маючых ні коней, ні зброі сялян з коннымі наездамі магнатаў. Такім чынам, усе прыведзеныя прыклады дазваляюць зрабіць выснову: баявыя майстэрствы ў краінах Азіі былі зброяй найбяднейшых людзей у ізаляваных ад свету грамадствах, супярэчнасці якіх мелі характар бунтаў, паўстанняў ці грамадзянскіх войнаў, такіх, як паўстанне тайпінаў у Кітаі, ці час «палявання на мячы» ў Японіі.

ГІСТОРЫЯ Беларусі і яе народа не ведае такіх перыядаў. Наадварот, звычай «пагоні» ці пазнейшае паспалітае рушэнне патрабавалі мець зброю і валодаць ёй практычна ад кожнага мужчыны ў колішнім Вялікім Княстве Літоўскім. Сябе і радзіму нашыя продкі звычайна абаранялі не голымі кулакамі, а дзідай, сякерай і мячом — недарма ж на гербе Вялікага Княства была выява «пана дорослого, кто бы мог боронить мечом отчизны свое». Таму традыцыяй беларусаў, як, дарэчы, і большасці народаў свету, стала валоданне зброяй, а не кампенсацыя яе адсутнасці голымі рукамі.

*«... з нажом булатным хвацка*
*Ён моўчкі забаўляўся, як малое з цацкай.*
*Лязо ў падлокатку, а тронка паміж пальцаў.*
*І ўсё глядзіць стары: «Дакуль жа гэта мальцы*
*Там будуць чубкавацца?»*

***Бойка з перакідкай***

*Нажамі — сеч жахлівая! Увачавідкі —*
*Адзін, другі паранены або забіты.*
*Ён, гэты страхабой, даўно ўжо быў забыты*
*У Літве, хіба адны дзяды — Герваз — задзіра*
*Ды Войскі — ім бравіравалі: Войскі — у ціры.*
*Герваз — у корчмах. Вунь цяпер стары трымае*
*Ў гатоўнасці свой нож — дыстанцыя прамая.*
*Вось аблюбуе цэль і шыбане з размаху —*
*І — амба, пане Граф!»... —*

так апісаў у сваёй паэме «Пан Тадэвуш» яе аўтар Адам Міцкевіч адзін з распаўсюджаных на ягонай радзіме прыёмаў, які мог ужывацца як для абароны, так і для нападу. Але традыцыі ўжывання зброі нашымі продкамі — тэма для асобнага артыкула.

## І СМЕХ І ГРЭХ

**ПАРОДЫІ**

*Янусь МАЛЕЦ*

## СВЯТАЯ ПРАЎДА

*Мне верай Каложа паможа,*
*А Белая вежа дасць зроку,*
*Каб я ад святой нашай праўды*
*Нідзе не сыходзіў далёка.*
*Мяне пракляне мая Памяць —*
*Яна не бывае нямою!*

**Казімір КАМЕЙША.**

Калажа прыпомніцца раптам
І іншых мясцінаў куточкі,
Прымроіцца вёсачка, хаты
І з комінаў к небу дымочкі.

У думках у госці паеду
Туды, дзе бываў неаднойчы,
І, трапіўшы там у бяседу,
Чытаць буду вершы паўночы.

І здзіўлены рыфмамі, хтосьці
Са мной будзе піць без супынку
І ледзь не ўтаплюся ў балоце,
Як выйду за хлеў на хвілінку.

І ў памяці будуць правалы, —
Яна ж не камп'ютар якісьці, —
Прыпомню: было ўсё-ткі мала...
Не ўспомню: а колькі ж мог выпіць?

Як добра, што ўсё гэта ў думках, —
Такія няўклюдныя госці! —
А то пры падобных варунках
Ад сораму б збег з «Маладосці».

## ПАЧУТАЕ "Ў ЛЯВОНА"

### У кожнага свой бестселер

Пасажыр сядзіць у электрычцы і, чытаючы кнігу, час ад часу ўсклíквае: «Вось гэта маеш! Ну і ну! Ніколі б не падумаў! Не можа быць!..»

У рэшце рэшт астатнія пасажыры не вытрымліваюць і хорам пытаюцца:

— Ды што вы такое неверагоднае чытаеце?

— Ды арфаграфічны слоўнік, — кажа пасажыр.

### Пісьменнасць, пісьменнасць...

— Ну як, знайшлі вы сабе добрую машыністку?

— Знайшлі. Машыністка выдатная, хутка і граматна друкуе пад дыктоўку. Але ж цяпер новы клопат...

— Які ж?

— Ды трэба знайсці рэферэнта, які б змог гэтак жа хутка і граматна дыктаваць.

### Дыягназ невядомы

Бармэн кажа знаёмаму:

— Такая бяда, такія страты.

— Няўжо рэкеціры наведаліся?

— Горш. Учора памёр адзін з нашых пастаянных кліентаў. Выдатны быў мужык! Штовечар выпіваў у нас цыстэрну піва і каністру гарэлкі.

— А памёр ад чаго?

— Дык хто ж яго ведае.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 30

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5904паасобніка
Падпісана ў друк 25.07.1994 г.
у 15 гадзін.